■ ПАСЛУГІ

## Домакіраўніцтвы для насельніцтва: любы капрыз за вашы грошы

**МАЛАДЗЕЧНА. Па патрабаванні жыхароў ЖРЭУ аказваюць амаль што ўсемагчымыя віды паслуг. Але ўсе яны платныя, акрамя выкліку спецыялістаў.**

Кожнае домакіраўніцтва мае сваю будаўнічую брыгаду. Яна можа зрабіць у кватэры рамонт: 1-пакаёвая – прыкладна 71 тысяча рублёў, 2-пакаёвая – прыкладна 100 тысяч, 3-пакаёвая – прыкладна 160 тысяч. У кошт такога рамонту ўваходзіць пабелка столяў, паклейка шпалераў, фарбаванне падлогі, дзвярэй. Матэрыял, вядома ж, заказчыка.

Яшчэ домакіраўніцтва можа дапамагчы павесіць люстру (за 1296 рублёў) або замяніць замок (1462 рублі).

Самы, бадай, распаўсюджаны выклік сантэхнікаў – гэта прачыстка ўнутранай каналізацыі, якая каштуе 1100 рублёў. Замена змяшальніка расцэньваецца ў 2581 рубель. А калі патрэбна памяняць ванну, то трэба будзе аддаць 7500 рублёў. Але ж набыццё новай ванны абыдзецца дзесьці ў 120000 рублёў.

Пералік усіх паслуг, якія домакіраўніцтва аказвае насельніцтву, і цэны на іх змешчаныя ў кожным ЖРЭУ на інфармацыйнай дошцы. Але, на жаль, спажывец (як зазначаюць камунальнікі) вельмі рэдка звяртае туды сваю ўвагу. Як і на тыя дагаворы, якія існуюць паміж выканаўцам і ўладальнікам дзяржаўнай або прыватызаванай кватэры на тэхнічнае абслугоўванне жылога дома.

Найбольш распаўсюджаныя віды тэхнічнага абслугоўвання: прафілактычны агляд і тэхнічнае абслугоўванне цеплафікацыйных, водаправодных і электрычных сетак і ўстройстваў, якія знаходзяцца ў дапаможных памяшканнях дома, рамонт даху, дзвярэй пад'ездаў, зашкленне падвалаў і лесвічных пляцовак, уборка дваровай тэрыторыі, пасадка дрэў, ачыстка і дэзінфекцыя смеццеправодаў, забеспячэнне бесперабойнай работы смеццеправодаў, а таксама ліфтаў, абслугоўванне аварыйна-дыспетчарскімі службамі, выдача даведак жыхарам аб займаемым памяшканні і складзе яго сям'і.

У ЖРЭУ-3 сцвярджаюць, што замена перагарэлых лямпачак і ўборка лесвічных пляцовак не ўваходзяць у тэхнічнае абслугоўванне. Усё ж астатняе тэхабслугоўванне ўваходзіць у штомесячную аплату за кватэру. І будзе аказанае толькі тады, калі жыхар выконвае ўсе ўмовы па здавальняючым утрыманні кватэры і ўносіць штомесячную своечасовую аплату за жыллё.

Установак вода-, газалічыльнікаў домакіраўніцтвы не займаюцца. Гэта ўваходзіць у кампетэнцыю спецыялізаванай фірмы "Майстар".

**Ірына РАБУШКА.**

## Валасы купляюць кілаграмамі

**ВІЛЕЙКА. Нярэдка ў горадзе з'яўляюцца аб'явы, што ў памяшканні цырульні па вуліцы 17 Верасня купляюць валасы. Апошнім разам такі прыём быў 17 траўня.**

Каб купіць валасы, у Вілейку наведваюцца людзі з Мінска, Расіі, Украіны. Тое, што давядзецца купіць, потым рэалізуецца фірмам, якія займаюцца вырабам парыкоў. Падобныя "акцыі" ажыццяўляюцца амаль штомесяц. Відаць, сярод доўгавалосых віляйчан яны карыстаюцца папулярнасцю. Хаця тыя, хто купляе валасы, вынікамі не вельмі задаволеныя. За дзень да іх, у сярэднім, звяртаецца чалавек 10, але бывае, што і значна менш.



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**Ірына Апяцёнак з маладзечанскай сярэдняй агульнаадукацыйнай школы мастацтваў са сваімі валасамі развітвацца не збіраецца.**

Найчасцей прыносяць састрыжаныя валасы. Падчас апошняй закупкі бабулька прынесла сваю касу, якую састрыгла больш за 20 год таму. Захоўвала сваё "багацце", меркавала, ўнучцы спатрэбіцца. Калі ж убачыла аб'яву, вырашыла прадаць, бо спадзявалася на значную колькасць грошай. Спадзяванні не спраўдзіліся: атрымала бабулька крыху больш за 7000 рублёў.

Каб прадаць валасы, трэба ведаць, што яны павінны быць адпаведнай якасці. Не з усякіх можна зрабіць парык. Валасы мусяць быць не карацейшыя за 32 сантыметры, а калі сівыя ці афарбаваныя – 50 см. Зрэшты, людзі, якія купляюць валасы, могуць і не прыняць ваш "тавар", калі выгляд у яго не зусім таварны.

Здараецца, "прыносяць" валасы яшчэ не састрыжаныя. У такім выпадку да паслуг здатчыкаў вілейскія цырульнікі. У асноўным, такія кліенты – людзі, якія даўно жадаюць развітацца са сваімі доўгімі валасамі, зрабіць новую прычоску. А калі за гэта можна яшчэ і грошы атрымаць – дык і зусім добра. Можна сумясціць прыемнае з карысным. Выпадкі, каб валасы стрыглі выключна дзеля атрымання грошай, амаль не сустракаюцца.

Многіх прадаўцоў прывабліваюць даволі высокія цэны – 80000 за кілаграм. Але не ўсе ўяўляюць, колькі валасоў патрэбна, каб гэты кілаграм атрымаўся. А калі вы – уладальніца (ці ўладальнік) такой незвычайна доўгай, цудоўнай касы, дык лепш добра ўсё пралічыце, перш чым канчаткова з ёй развітацца.

**Алена КАСПЯРОВІЧ.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**Прадавец «Медтэхнікі» Іна Ганецкая дэманструе работу танометра.**

## «Медыцынская тэхніка» да паслуг насельніцтва

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую пятніцу ў горадзе па вул. Валынца, 14 адкрыўся першы спецыялізаваны магазін «Медыцынская тэхніка».**

Гэта ў нейкім сэнсе аналаг аптэкі. З той толькі розніцай, што прадаюць тут не лекавыя прэпараты, а сродкі для догляду за хворым, гінекалагічны і стаматалагічны інструментарый, расходныя прадметы, слыхавыя апараты, танометры. Усяго – каля 700 найменняў тавараў для насельніцтва.

РУП «Белмедтэхніка» такім чынам стварае ў Маладзечне рэгіянальны цэнтр па забеспячэнні бальніц, лячэбных устаноў. Сюды могуць наведацца (і папярэдне заказаць тавар) медыкі суседніх Вілейшчыны, Валожыншчыны, Мядзельшчыны.

Непазбежна паўстае пытанне пра цэны. Яны тыя ж, што і ў сталіцы, бо транспартныя выдаткі прадпрыемства бярэ на сябе. Па заяўках бальніц, дарэчы, заказы таксама даставяць бясплатна.

Падобных магазінаў у Маладзечне дагэтуль не было. Спажыўцы змушаныя былі ехаць у Мінск або купляць сумніўнай якасці (ці не правераныя) прыборы на рынку.

**Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**



**Побач з «Кветкамі» адкрыўся спецыялізаваны магазін «Медыцынская тэхніка».**

## Курсы валют НБ РБ

| | 31 мая | 7 чэрвеня |
|---|---|---|
| Долар | 1362,00 руб. | 1373,00 руб. |
| Нямецкая марка | 595,27 руб. | 599,97 руб. |
| Літ | 340,41 руб. | 343,26 руб. |
| Расійскі рубель | 46,82 руб. | 47,08 руб. |
| Злоты | 338,51 руб. | 345,50 руб. |
| ЕЎРА | 1164,24 руб. | 1173,43 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1380 – 1400 руб. | 1380 – 1400 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 30.05 | 6.06 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2280 | 2280 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 7530 | 6435 |
| Сасіскі, 1 кг | 2550 | 2550 |
| Селядзец, 1 кг | 1580 | 1580 |
| Рыс, 1 кг | 550 | 550 |
| Грэчка, 1 кг | 440 | 460 |
| Цукар, 1 кг | 575 | 575 |
| Алей, 1 л | 830 | 830 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 680 | 680 |
| Маянэз, 200 г | 260 | 260 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1500 | 1500 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 450 | 460 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 380 | 370 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 450 | 450 |
| Капуста, 1 кг | | 900 |
| Агуркі, 1 кг | | 800 |
| Лімоны, 1 кг | 1450 | 1400 |
| Апельсіны, 1 кг | 1150 | 1200 |
| Чарэшня, 1 кг | | 1300 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Смятана, 1 л | 1100 | 1000 |
| Масла, 1 кг | 2200 | 2000 |
| Тварог, 1 кг | 900 | 800 |
| Малако, 1,5 л | 350 | 350 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 950 | 950 |
| Бульба, вялікае вядро | 500 | 600 |
| Морква, 1 кг | 1200 | 1000 |
| Яблыкі, 1 кг | 750 | 750 |
| Цыбуля зялёная, 1 пучок | 200 | 200 |
| Радыс, 1 пучок | 200 | 200 |
| Кроп, 1 пучок | 80 | 100 |

## Расклад руху электрычак па ст. Маладзечна з 10 чэрвеня 2001 года.

| Маладзечна адпр. | Мінск прыб. | без прып. | Мінск адпр. | Маладзечна прыб. |
|---|---|---|---|---|
| 4.33 | 6.15 | Сел., Крын. | 4.30 | 6.04 |
| 5.31 | 7.18 | | 5.21 | 7.03 |
| 6.02 | 7.44 | Сел., Крын. | 6.41 | 8.14 |
| 6.32 | 8.18 | | 7.36 | 9.24 |
| 7.28 | 9.16 | | 8.20 | 10.06 |
| 8.34 | 10.22 | | 9.00 | 10.45 |
| 9.43 | 11.42 | | 10.00 | 11.47 |
| 11.00 | 12.48 | | 11.10 | 12.58 |
| 12.10 | 13.48 | птн., вых., Рам., Ан., Хмел.,Зял., Крыж., М.Мора. | 12.25 | 14.12 |
| 12.51 | 14.42 | | 13.22 | 15.08 |
| 13.55 | 15.44 | | 15.04 | 16.37 птн., вых. |
| 14.55 | 16.43 | | 15.36 | 17.22 |
| 15.41 | 17.28 | | 16.34 | 18.19 |
| 16.55 | 18.45 | | 17.34 | 19.18 |
| 17.48 | 19.34 | | 18.35 | 20.20 |
| 18.38 | 20.24 | | 19.16 | 21.02 |
| 19.55 | 21.41 | Лебядзіны | 20.36 | 22.18 |
| 20.38 | 22.35 | Лебядзіны | 21.30 | 23.10 |
| 22.26 | 23.54 | Сел., Ласі, Рам., Прал., Ан., Хм., Зял., Крыж., М.М., Леб. | 22.37 | 0.12 |

## Расклад руху прыгарадных цягнікоў па ст. Маладзечна з 10 чэрвеня 2001 года.

| Маладзечна адпр. | Гудагай прыб. | | Гудагай адпр. | Маладзечна прыб. | |
|---|---|---|---|---|---|
| 8.38 | 10.24 | штодз. | 5.25 | 7.11 | штодз. |
| 13.24 | 15.11 | вых. | 10.39 | 12.19 | штодз. |
| 15.46 | 17.29 | штодз. | 15.33 | 17.20 | вых. |
| 18.02 | 19.51 | штодз. | 17.44 | 19.25 | штодз. |
| 20.35 | 22.18 | штодз. | 20.19 | 22.00 | штодз. |

| Маладзечна | Ліда | | Ліда | Маладзечна | |
|---|---|---|---|---|---|
| Багд. 7.32 | 9.02 | суб. | 3.27 | 6.45 | штодз. |
| 8.27 | 11.40 | штодз. | Багд. 10.15 | 11.39 | суб. |
| 12.34 | 15.43 | вых. | 9.18 | 12.26 | штодз. |
| Багд. 13.33 | 15.00 | па ўказ. | 12.16 | 15.22 | вых. |
| Юрац. 14.22 | 16.19 | нядз. | Багд. 15.59 | 17.27 | па ўказ. |
| 17.51 | 20.57 | штодз. | 16.35 | 19.40 | штодз. |
| 20.40 | 23.44 | штодз. | Юрац. 19.01 | 21.01 | нядз. |

| Маладзечна | Крулеўшчына | | Крулеўшчына | Маладзечна | |
|---|---|---|---|---|---|
| Параф. 7.19 | 9.16 | вых. | 4.35 | 6.58 | штодз. |
| Полацк 8.30 | 10.50. | Пол. 13.00 штодз. | Параф. 9.36 | 11.34 | вых. |
| 12.36 | 14.56 | вых. | 15.16 | 17.38 | вых. |
| 20.40 | 22.57 | штодз. | Полацк 14.42/17.09 | 19.34 | штодз. |
| | | | Полацк 17.16/19.35 | 22.03 | птн. |

